Бывае, што мейсцо прырасло да „матки“ и праз тры дни не адходзиць, дый гниць пачынае; тады карову трэба спрынцаваць румянкам (рамашкай), дадаўшы пятнацаць каплёў карболю, ци распусьциўшы лыжку „криолину“ ў васьми шклянках вады. Можна ешчэ ўсунуць руку, пасмараваўшы алеем, прытрымаць высунуўшыся кавалак мейсца другой рукою и ў сярэдзине прыраслае мейсцо асьцерожне аддзелиць ад дзэтницы. Усё-ж лепей, каб гэта рабиў вэтэрынар, бо, ня знаючы, гэта добра зрабиць ня надта лёгка.

*Михайло Сяньски.*

# НА ПРАДВЕСНИ.

Эх, напёрла лиха — горэ!
Ни сенины, ни зерна;
А тут сьнег ешчэ ня скора
Згониць цёплая весна!
У кишэни — ни грашынки,
Хата поўная дзятвы!
Ни паленца, ни лучынки, —
Хоць у землю лезь жывы!
Папалили, пераели, —
Ничагутка ани ў зуб!
Хлеба тольки да нядзели,
На два разы ўсяго круп!
А даўгоў ты нахватаўся!
Таму цзесяць, таму пяць...
Вось, гдзе, Грышка, ты папаўся,
Чым ты будзеш аддаваць?
Эх, напёрла лиха Грышку!
Рук нима за што зацяць...
Хиба выпьем па килишку, —
Лягчэй будзе гарэваць!...

Якуб Колас.

# З Беларуси и Литвы.

(Ад нашых карэспандэнтоў).

Г. **Лида** Вил. г. Злажылася тут суполка гаспадарская, належыць да яе шмат народу. Суполка мае супольную ручную малатарню, арфу, сечкарню. Завяли пры ёй и чытальню, гдзе ёсць книжки а гаспадарцы; тые книжки раздаюць па вёсках. За супольные грошы зрабили тут краму, с каторай маюць найбольш карысьци. — Можэ гэтая суполка паслужыць за прыклад для других мястэчак и вёсак. Усим нам дрэнна, ўсе барукаемся з бядою, дык злучаймося разам, и супольными силами лягчэй чаго-небудзь дабьемся. Памагаймо адзин аднаму: не памагли мы никому, нихто не паможэ и нам, и так бьемся да сьмерци, бяруць усих чэрци... Ў Виленскай губ. адкрылася ужо таких 60 суполок. **И. Калодка.**

Ў в. **Вялikие Конюшаны** Ганчарск. в. Лидзк. пав. Вил. г. вельми хварэюць и умираюць дзеци з оспы и шкарлятыны. Ад 1-го студня да 12 лютаго памерла 11 дзяцей, трое старых; пяцёра ляжыць хворых. Мужыки, хаваючы нябошчыкоў, прапиваюць многа грошэй, як на вясельли; але падумаць аб доктара, каб ён лечыў хворых, нихто ня хочэ: кажуць, дорага будзе каштаваць. Цёмные людзи, ци ня болей выпрапиваеце, як той доктар каштуе? **Тутэйшы.**

В. **Клюковичы**, Белицкай вол. Лидз. п. Вил. г. 15 лютаго ляснику И. Дудзич злавиў у леси мужыкоў з в. Мастаўляны, рубаючых бярозы. Паглядзеўшы, што их грамада, ён пациху сеў на адны санки и паехаў да сябе, думаючы, што дазнаецца, хто рубиць лес, як той винавайца прыдзе па свайго каня и санки. Але-ж мужыки схамянулися, ускочыли на другие санки, дагнали ляснику ды страшэньне пабили яго. Пакинуўшы за нежывога, уцякли.—Вельми дрэнная и брыдкая гэта справа. **Свой.**

В. **Осово** Белицк. вол. Лидзк. п. Вил. г. нарэкае на старшыну свайго Лукашэвича, каторы пабиў ды катаваў мужыка Юзука Санюка без усякай прычыны. Дзела а катаваньню пайшло к сьледоваце́лю. Кажуць, што як выбирали Л. за старшыню, дык быў чалавек добры; видаць папсаваўся, як стаў за начальства над мужыками. **К. Дзелиба.**

Каля в. **Сыцэвич** недалёка ад г. Радашкович Вилен. г. Вилейск. п. пани Янишэўская робиць млын, и трэба ёй было заарэндаваць кавалак вёсковай зямли. Мужыки угаварылися 60 руб. ў год арэнды, и пани Я. дала ешчэ 20 руб. на ўсю вёску. Сычэўцы ничога лепшага ня выдумали, як паехаць ўсим у мястэчка ў рэстаран и прапиць гэтые грошы. Нехай бы аддзялили з гэтых грошэй рубля зо тры, каб купиць крыху книжок аб гаспадарцэ, ци рэмеслах; ў Сычэвичах ёсць граматные людзи, и дзеци умеюць чытаць,— была бы карысьць ўсим; або падписалися бы на газэты. Праз цемнату людзи жывуць як скацина, апроч гарэлки ничога ня выдумали нашы мудрые сычэўцы. Насцебаўшыся гарэлки, пабилися, адзин другому скрывавиў галаву, цяпер будуць судзицца... **„Крэсиво“.**

г. **Радашковичы**. Ў нашым сьпячым мястэчку ничога добрага не бывае. Ў гарадзкой управе стораж 17 лет украў 170 руб.—21 лютаго быў вялики торг. Рэстаран беларусы мужыки добра падтрымали, ён зарабиў каля 400 р. Нейки злодзей залез, каб выкрасць их, але ўсе грошы рэстаранщчык забраў дамоў; злодзей разжыўся тольки на медзяки.—Ў прыхадзким вучылишчы вучни каталики цэлы тыдзень баставали дзеля таго, што поп вучыў праваслаўных, а ксендза для каталикоў не было; цяпер ужо ксёндз ходзиць. — У гарадзким вучылишчы ксёндз скора будзе хадзиць. Кепские такие вучылишча, гдзе дзяцей прывучаюць да рэлигийнай сварки! **Клешня.**

У **Радашкоўскай** воласьци цяпер мужыки крыцаць галавой, як бы зрабиць у воласьци справедливы суд. Пра старых судзей кажуць, што спачатку были добрые, а потым папсавалися; пазнали некаторые з их дарогу ў рэстаран. Выбираюць цяпер новых, але новые не так добра знаюць дзела,

танней, як у нас. Цукер той самы, што мы ў хаци купляем—сам чытаў на галаве: „Cukrowarnia Sanniki—Gubernia Waršawska“...

Як дачытаў я да гэтаго мейсца, дык и ня помню, што там далей Янук писаў, бо ўсё мне той танны цукер ў галаве быў. Скуль ён там таки танны бярэцца? Тож ад нас, думаў я, да Варшаўскае губэрни за дзень па чугунцы заедзеш, а да гэтае Англии нешта дзён дзесяць ехаць трэба. Дый зноў жэ ж у нас за фунт аддаси 16—17 капеек —найтаней залатоўку, а там менш паловы гэтага. Крамник жэ ня будзе прадаваць так, каб сам не зарабиў—а там жэ ён мусиць и цукраварни заплациць, тоеж, што наш Глиницки Бэрка плациць, дый за правоз куды больш за Бэрку, бож той цукер аж на край сьвету везьци трэба. Не, нияк не згадаю, трэба будзе Сымона папытацца.

Схапиў я шапку — пабег да Сымона.

— Здароў, дзяцюк, як маешся,—адазваўся да мяне Сымон, як тольки я увайшоў у хату. — Здароў, што скажэш? Садзися.

— Дзякую, Дзядзьку,—атказаў я яму, сеў на лави, дый пачаў гаварыць, што ды як мяне да яго прыпёрла.

— Так, —кажэ Сымон, — так; вось Табе изноў адна рэч, што балиць, а чаму балиць—ня ведаеш. Ну, слухайжэ. — Фабрыканту каштуець фунт цукру восем або дзесяць грошей, — залежне ад ураджаю на бураки, цэны на дрovы, вапну, работника. Але тут убиўся ешчэ акцыз: з кожнаго фунта праданаго цукру павинен фабрыкант плациць 9 грошэй ў казну. — Скуль заплациць гэтые дзевяць грошэй фабрыкант? Ня будзе жэ ён плациць з свае кишэни. Праўда, ён аддаець у казну акуратне гэтые дзевяць грошэй еле тыеж дзевяць грошэй так жэ акуратне и з лишкай дзярэ з крамника, а крамник ешчэ акуратней дзярэ з купца.

— Ну, добра, Дзядзьку, — кажу я, -- то выходзиць так, што купиўшы фунт цукру и заплациў фабрыканту, и казьне падатак—той акцыз—аддаў; алеж гэта будзе разам яких грошэй восемнацаць за фунт—нехай, трэба и крамнику зарабиць—дванцаць грошэй фунт, а не то, каб так, як у нас: и залатоўка, и ешчэ грошэй два, чатыры наличаюць.

— Тут, бачыш, Дзяцюк, умешалася изноў другая рэч.— Тавар тольки тады танны бывае, кали крамники адзин аднаму цэну збиваюць.

— Але,—кажу я,—праўда: тож у нас пакуль да чугунки было далёка, то бывала за газу аддай-Бэрцы 6 капеек за фунт,—иначэй не прыступишся; а цяпер на новай станцыи крама, глянь, ўраз жэ цэну зьбила, каб тольки у яе людзи купляли. Тут и Бэрцы прыйшлося цэну скинуць, бо нихто ў яго не купляў. А нам, што газу купляем, гэта добра— танна.

— Вось, бачыш, казаў далей Сымон,—кали крамники змагаюцца адзин з адным, каб больш свайго тавару прадаць,--гэта называецца ў навуцы—**конкурэнция**. Вось и кажуць, што конкурэнция памеж крамниками збивае цэну на тавар, конкурэнция меж купцами—падбивае цэну. Нехайбы была меж цукраварнями вольная конкурэнция, то скора зьбили бы цэну на цукер роўна на стольки, па скольки ешчэ варта прадаваць без страты для сябе. А каб ешчэ не было акцызы, то быў бы цукер саўсим танны и ўсяму беднаму народу лёгка былоб яго купляць. Але ў Расеи ня тое. Па сягоняшних цукровых законах выходзиць так, што ни водная фабрыка ня мае права распараджацца сваим цукрам. З году на год вядзецца рахунак, скольки ва ўсей Расеи купляли людзи такога дарагога, як ён цяпер, цукру. Стольки значыць, могуць фабрыки прадаць, не псуючы сабе цэны. Вось, па закону, выличаюць на ўсе цукраварни, скольки кожнай можна прадаць цукру ў Расеи, але больш-ни-ни! Гэтакими парадками зрабили тое, што межы цукраварнями конкурэнции немаш, и зьбиваць цэну ѣдна аднэй ня мае патрэбы; за тоеж немаш для беднаго народу таннага цукру.

— Ну, то добра, дзядьку, — адазваўся я, — алеж так сама можэ здарыцца, што пры гэтых лишне разумных парадках фабрыканты ў дурнях астануцца. — Нехайжэ яны, нарабиўшы шмат цукру, не здолеюць прадаць яго па дарагой цэне, тож тады у их цукер непапрадаваны ляжаць будзе; гэтаж благи интэрэс век непроданы цукер трымаць?

— И на гэта, нябось, зроблена рада, а нават дзьве рады, — атказаў Сымон. — Видзиш, кали фабрыки маюць залишне цукру и ня могуць прадаць яго у нас ўвесь па дарагой цэне, то дазволена им прадаць той цукер за границу. За гэты вывезены за границу цукер фабрыкант акцызу не плациць и можэ прадаць яго па таннай цэне, бо там, дзе ёсьць конкурэнция и малы акцыз, нихто дорага цукру не купляе. Дык и выходзиць, што, не мяркуючы, у Англии расейски цукер каштуець за фунт 10—12 грошэй; и там яго ядуць ня тольки людзи, а нават и сьвини, бо цукер вельми многа ў сабе пажывы мае — ён и смачны, и здаровы, и жывёла ад яго скора правицца.—Але и у нас дворнай жывёли нема чаго да англицкай зайздраваць— и для яе льгота ёсьць. Па закону, вольна фабрыканту змешаць цукер з атрубами, сечкаю, ци другою пашаю так, каб чалавек гэтаго есьци ня мог, и таки цукер свабодны ад акцызу. Ў такой пашы яго и прадаюць, личучы па 5 капеек фунт. Гэта значыць, што за атрубы, сечку трэба заплациць стольки, скольки яны каштуюць, а за цукер, што да их дасыпаны, асобне па 5 кап. за фунт

— Выбачайце, Дзядзьку, то, па просту кажучы, выходзиць, што гэтые цукровые парадки, якие цяпер у нас и па ўсей Расеи, добрые для фабрыкантоў, добрые для англицких сьвиней и для нашай дворнай жывёлы (бож мужык сваёй кароўцы цукру ня купиць),—тольки цяжкие для ўсяго таго народу, што дорага за цукер плациць ня можэ. Ци добра я зразумеў?

— Праўда,—атказаў Сымон,—так яно и ёсьць. Вось тут дабралися мы да таго, чаму гэта Янук у Англии танна цукер купляў. Там сам народ зрабиў таки парадак, каб бедны мог купляць танна ўсё, што яму патрэбна: у нас таких парадкоў нема. Завесьци их у нас магла бы Дума, дый, чуваць, иншые дэпутаты гаварыли и гаворaць, што гэтые цукровые парадки даўно пара зьмяниць.

— Нехайбы скарэй зьменили, дзядзьку,—прыкинуў я,--бож праўда, крыўда гэтым дзеецца нам.

Развитаўся я гэта з Сымонам и пашоў дамоў. Позна было ўжо—ўсе спали. Лёг и я, и сьнилися мне ў ночы то дворная карова, то англицкая сьвиня- што солодка есьць—то наш мужык, што хвораму дзицяци ледзьве кавалачэк цукру купиць здалее.

КАНЕЦ.

---

## ВЯСНОЮ.

Цёпла будзе, сьнег пагине,
Вышэй сонцэ хадзиць стане,
Луч прыветны ўсюды кине,
Ўсюды сонейко загляне.

З гор пальюцца перэвалы,
Шумна рэчка раскуецца,
Выйдзе з хаты стар и малы
И прыветна усьмяхнецца.
Убярэцца лес прыгожа
У гарнитур свой зялёны;
Засьпевае птушка божа,
Камары забьюць у звоны.
Зашумиць трава густая,
Кветки ў лузе затрусуцца
Вясна прыдзе маладая —
Ўсюды несьни цанясуцца.

Якуб Колас.

## З Беларуси и Литвы.

(Ад нашых карэспандэнтоў).

**м. Лебедзево** Вил. г. Вилейск. п. Недаўна на сходзе выбрали новаго старшыну; ён быў раней судзьёй. людзи маюць надзею, што ён будзе па суменьню спаўняць сваю службу. Нияки Кастусь Валенты хацеў быць старшыной, але яго нашы ня выбрали.

Ўжо и нашы лебедзеўские беларусы зведали, што бязмернае пьянства губиць мужыкоў. Хоць и хлеба мала, але манапольки пьюць ўсё больш и больш; прапиваюць и розум, и суменьне, и здароўе; праз гарэлку чалавек лёгка идзець на ўсякие праступки. Вось цяпер на сходзе мужыки, разумеючы гэта, пастанавили прасиць начальства закрыць новы трахцир и ўсе пивные. Добра бы завясьци у нас народные чытаньня, библиотэку. Добра было бы настроиць народны тэатр, каб самы прэдстаўляли, як гэта робицца у латышоў и па ўсих вёсках у Галиции. Сам народ там знаходзиць чым заняць вольны ад работы час, якой забавай и карыстнай, и вясёлай. **„Батрака сябар“.**

**в. Жэмайские Дзитрыки** Ганчарскай валасьци Лидз. п. Вил. губ. На вясэльли падпиўшы хлопцы пабили и пакалечыли хлопца М. Будзе суд. Пьюць беларусы нашы, не трымаючыся ниякой меры! **Свой.**

**г. Радашковичы** Вилен. г. Вилейск. п. Есць адзин сидзелец Г. Прадае ён гарэлку за грошы, а дарма на закуску атруту для вума—частуе мужыкоў чорнасоценными байками процiў „крамольникоў“. Некаторые мужыки цяпер ня могуць нияк уцямиць, ци гарэлка лепша, ци свабода. Збилися, бедные, с панталыку!

— Адна асоба на рынку недаўна звала каля „гарацких весоў“ биць жыдой, але радашкоўские мужыки ня мели на гэта ниякой ахвоты, не падтрымали! А жыд ад „весоў“ пашоў жалицца на гэту асобу яго начальству.—У нас, у Беларуси, дзякаваць Богу, пагрома ниводнаго не было, як у Киеўщыне, у Кишыневе. Бо беларус личыць жыда за такога самаго беднаго чалавека, як и ён сам, ды што ешчэ и правоў мае менш ад хрысциянина. **„Вецер“.**

**в. Германишки.** Вилейск. пав. Вилен губ. Нима мудрэйшых людзей, як германишские мужыки! Нашу валасць прылучыли да Гарадка; застаўся парожни дом, ў каторым хоць зараз можна завясьци школу, але мужыки хочуць аддаць той дом не пад школу, а прадаць. **Зык.**

**В. Кленики** Бельск. пав. Гродн. губ Прыгаворам схода недаўно выслали ў Вятскую губ. с Кленик 5 мужыкоў злодзеёў. Другие сельские обчэства па прыкладу Кленик зачали рабиць такие-ж прыгаворы и высылаць канакрадоў и злодзеёў. 7 вёсак зрабили прыгавор, каб выслаць 21 мужыка. Вядома, што добра атчапицца ад зладзейства, але часами злые людзи накируюць так цёмных мужыкоў, што яны пастанаўляюць выслаць и нявиннаго чалавека. Ў некаторых губэрниях з гэтаго карыстаюць мужыки „союзники“ и высылаюць мужыкоў «крамольникоў».

Каб ў нас бый добры и скоры суд, ды была добрая палиция на зладзеёў, тагды и кожны баяўся бы красьци. Напрыклад, ў Англии так добра устроена палиция, што ни адзин крыминал не астаецца нераскрытым.

В. Ленево хацела выслаць Ивана Малиша: у яго знайшли шмат адмычэк и ключоў. Але Кленикски валасны сход не зацьвярдзиў. Усё гэта добра, але беда ў тым, што на сходзе ўсе пили гарэлку! Судзила, як кажуць, не суменьне, а манаполька! Можна, значыць, за гарэлку и апраўдаць, и засудзиць чалавека. А кленикскае валасное начальства и выбарные ня надта добрую славу маюць, за бутэлькай у клуни разбираюць, чыя гарэлка смачнейшая. Фэльчеру не даюць пачтовых каней ездзиць да хворых и др... **Михалка-Запалка.**

**В. Вяликая Липа.** Навогрудз. пав., Минск. губ. 16 марца адбыўся ў нас сход; нашы гаспадары прыгаварам пастанавили, каб нихто ў сяле не дзержаў гарэлки на продаж. Для гэтаго выбрали 4 чалавек, каторые павинны глядзець, каб гарэлка ни у каго ў вёсцы не прадавалась, апроч „казённай лавки“. А кали дазнаюцца, што хто таргуе гарэлкай, то будзе плациць штраф 25 руб. на грамадзкие патрэбы. Таким парадкам думаюць липоўцы паменшыць ў сябе пьянства. Цяпер ня будзе ў кожным доме шынок, гдзе можна дастаць гарэлку и ў дзень, и ў ночы, ды нават нямаючы грошы—даюць на крэдыт. А манаполька ў ночы зачынена и без грошей не даюць. Каб липаўцы ешчэ адкрыли ў сябе библиотэку, то дали бы добры прыклад другим беларуским вёскам, гдзе мужыки гниюць ў цемнаце, сьцебаюць гарэлку, ды пальцам ня кивнуць, каб самым паправиць свае жыцьцё. Вось жэ ад гэтаго наш край таки и бедны! **Тадэука Каунер.**

**В. Янушковичы**, Барысоўск. пав. Минск. губ. Ўлеташнюю восень архирэй перанасиў образ Матки Боскай з Минска ў Лагойск. Палиция хацела прымусиць мужыкоў правиць дарогу. Але мужыки ешчэ раней зговарылися правиць дароги кожны только на сваей зямли. Вось Янушкоўскае обчэство не пашло правиць дароги аж за Лагойск. Тады палиция наняла людзей правиць дарогу и цяпер дамагаецца 120 руб. ад Янушкоўскаго обчэства, а год гэты цяжки. **Гаравик.**

**с. Корэнь.** Гайна-Слабодзкай валасьци, Минск. губ. Барыс. п. Ўжо трэци год, як тут ёсць народнае вучылишчэ. Кались вучни каталики прасили, каб их рэлигии вучыў не бацюшка, а ксёндз; нават зрабили забастоўку, каб сваего дабицца. Пачаў тагды хадзиць ў вучылишчэ ксёндз. Цяпер и ксёндз и вучыцель перамянилися, и гэта права

доў, што яны мели з дамоў и зямли капитульнай.

**Минск.** Аддали пад суд 15 палитычных арэштантоў, каторых винавацяць, што зрабили ў сьцене дзиру, каб уцячы з турмы.

**Минск.** Недаўна адкрылася, што некаторые людзи хацели ўзарваць дынамитам браму ў турме каб памагчы ўцячы с турмы тым, каторых прысудзили ў катаргу; меж ими ёсць и такие, каторым кара смерци заменена на катаргу. Але турэмны сторож злавиў лист аб гэтым, и ўсё дзела адкрылося. Камандзирам ўсей гэтай справы была маладзенькая гимназистка Холмская. Кали да яе прыйшла палиция, яна праз вакно уцякала на дах, але неяк звалилася с чацьвёртаго этажу и забилася на смерць.

**Минск.** Земски даверэнны даў тэлеграму, што у Игуменским павеци праўдзивы голад каля рэки Берэзины. Высланы 4 вагона жыта.

**Г. Бабруйск,** Минск. губ. — 26 марца ваенны суд прыгаварыў павесиць жалезнадарожнаго рабочаго Шпилеўскаго за тры „экспроприации“ з аружжэм ў руках.

**М. Петрыков,** Минск. губ. — Министэрства народнай прасьветы дазволила, каб ў чатырохкласным гарадзким вучылишчу разам з хлапцами вучылися и дзеўчынки. Ў некаторых невяликих гарадох и мястэчках, гдзе ёсць гарадзкие 4 класные вучылишча тольки для хлапцоў, а завесьци асобне для дзеўчынок нехват грошэй, людзи стараюцца зрабиць так сама, як ў Петрыкове. Гэта будзе шмат танней, дый ў мужских вучылишчах дзеўчынки дастануць больш навуки, як ў таких жэ жэнских.

Ў в. **Кошэлеве,** Рогачэўскаго пав. Магил. г. аткрылось „крэдытное товарыство“ — такая касса, гдзе мужыки в. Кошэлева и ешчэ 12 суседних вёсак будуць пазычаць грошы за невяликие працэнты. На пачатак товарыству даў пазычку 2 тысячы руб. гасударствены банк.

# З усих старон.

**Пецербург.** Быўшаму таварышу министра ўнутрэных дзел Гурко, катораго асудзили, выдалиць са службы за вельми „добрую“ дастаўку хлеба галодным мужыком разам з вядомым Лидвалем, цяпер кару даравали. Прыяцели Гурки хацели нават, як кажуць, дабивацца, каб яго назначыли членам Гасударственнаго Савету ци ў Сэнат; але пасьля адумалися, што Гурку судзили акурат тые людзи, што заседаюць ў Сэнаци и ў Гасударственном Савеци дык им не выпадае з Гуркай разам сядзець.

А з прыяцеля Гурки-Лидваля министэрства ўзыскивае безмала паўтары мильёна руб., што казна мела страты праз яго. (з „Рѣчи“.)

= Газэта „Рѣчь“ пишэ, што главны савет „саюза рускаго народу“ пастанавиў зьвярнуцца да прадседацеля Думы и давясьци яму, што трэба канешне скасаваць закон аб асвабаджэнью арэштованых раней канца адседки; закон той Дума ешчэ раней зацьвердзила.

А ешчэ, як вядома, саюз разаслаў па вёсках сваих „агитатароў“, каб шырыць свае думки (идэи) меж мужыками. Але-ж, ня гледзячы на падмогу администрации, им вельми не пашэнцила. Мужыки не хацели слухаць мовы саюзникоў, а часам проста прасили выбирацца вон. Книжки и праклямации, што кликали на пагромы, мужыки нават пры начальстве рвали на кавалки.

Идуць весьци и аб тым, што „аддзелы“ саюза па розных месцох закрываюцца. У апошним тыдни закрылись чатыры.

**Самара.** Дэпутат Чэлышэв (канцавы правы) ў Думе крычыць заўсягды, што трэба гарэлку звясьци са сьвету, але яго не надта хто слухае, бо так зрабиць, як ён радзиць ня можна, трэба гэта рабиць разумне. Чэлышэв мае ў Самары лазьни (бани); вось нядаўна палиция зрабила пратакол, што ў лазьни 1) прыводзяць непатрэбных кабет, 2) сторажы таргуюць гарэлкай. Аказалося, што покуль быў стары Чэлышэв, то ён плациў сторажам пэнсию, але як дэпутат стаў гаспадарыць у лазьни, дык ён ня тольки ня даў им пэнсии, але ешчэ я н ы павинны были яму плациць—тые, што працуюць ў низу лазьни—8 р. ў месяц, а на другим этажы—20 р.; им и астаўся тольки даход з манапольки и гэтых кабет. Вот табе и ваяка з гарэлкай!

———

У **Львови,** ў Галиции (Аўстрыя) неяки малады чалавек, Сичынски, застрэлиў наместника Галиции, графа Андрэя Потоцкаго.—Сичынскаго арэштавали.

## Што цяпер рабиць у садзи.

Ци мала у нас па вёсках садкоў, без дагляду яны кепска растуць, ешчэ горш родзяць, и карысьци з их мала самому гаспадару.

Цяпер самы час тое-сёе парабиць у садзи; сухие суки на дрэви павыпиловываць, ци паадсекаць; дзе два суки адзин аб адзин абиваюцца, ци абциpаюцца, там адзин выпилаваць. Мейсцо, дзе быў сук, згладзиць острым нажом, ци скоблем, роўна пры пни и засмараваць смалою. Мох, старую кару на пни и тоўстых сукох паскрэбсьци тупым бокам скобля ци нажа и пабялиць вапнаю.

Землю пад дрэвам загараць плугам, з увагаю каб дзярэў не паабдзираць; пад самым дрэвам скапаць рыдлёўкаю. Зямли пад дрэвам не запускаць пад траву: з гэтаго ни дрэву, ни гаспадару карысьци ня будзе. Пад дрэвам можна садзиць вярыва, бульбу, сеяць ярыну, а кали за лишним ценем не удаюцца, пасеяць выку з аўсом (кашаницу) на зялёны корм. На Петра кашаницу скасиць, а зямлю паараць; ци пабаранаваць хаця жалезнаю бараною.

Дзе маладое дрэва вецер можэ зламаць, — убиць кол ад поўдня, прывязаць дрэва перэвяслом, каб дрэва аб кол не абивалася.

Дзе агрэст, парэчки старые, ма родзяць,—старое кальё павысекаць, а кусты акапаць з гноем.

На малиннику гальё старае пры зямли павыламываць; так сама и маладое, ценкае. Пакинуць на куст па 5—6 маладых, тоўстых галин. Кусты акапаць з гноем. **Тройца.**



## Старая прауда.

Поки грошы есць ў кишэни,
Поки служба ў цябе есць, —
Любяць людзи и шануюць,
И павагу маеш, чэсць
А як ў жыцьцю спатыкнуўся,
Як куску ты хлеба рад, —
Глянеш—дзьверы ўсе закрыты,
Тольки сьпины бачыш, зад!...

Якуб Колас.

# Вецер.



Ой, ты, вецер неспакойны,
Дзьмеш ты без прэстанку!
Адну песьню нам сьпеваеш,
Адну кажэш байку.
То заплачэш сиратою
Над убогай хатай,
То застогнеш, як над нивай
Той мужык-аратай;
То засьвишчэш за вуглами,
Жалем разальешся,
То сярдзита ў дзьверы стукнеш,
Злосна засьмяешся!...
Ой, ты, вецер непрытульны,
Родны брат мой ў доли:
Раскидаем сьмех и сьлёзы
Мы у чыстым поли!

Якуб Колас.



## З атчоту землеустраицельных камисий у нашым краю.

Нашы беларусы, як и литвины, ўсё болей пачынаюць пазнаваць, якая карысць перайсьци з „шнуроў“ на фольварковую гаспадарку (хутары), гдзе ўся земля будзе ў адным кавалку. И вось, як видаць з атчоту землеустраицельных камисий, ў гэтые камисии не мала мужикоў падаюць прашэньня памагчы им разсялицца на фольварки. Гэтак у Виленскай губ., гдзе да аткрыцьця камисий были хутары тольки ў Троцким павеци—ўсяго на 2,339 дзес., да 1-го студня гэтаго году зроблены прыгаворы аб устройстви фольваркоў на 13,465 дзес.; у Гродзенскай губ. было ў трох паветах 5,350 дзес., пабитых на хутары, а цяпер мужыки просяць пабиць на фольварковые гаспадарки без мала 26 тысяч дзес.

Беда, што землеустраицельные камисии працавали дагэтуль неяк марудне. Ў Виленшчыне дагэтуль пабиты на хутары тольки 2 тыс. 346 дзес. —значыць, крыху больш за шостую частку таго, што людзи прасили. Ў Вилейским и Свенцянским паветах дык не заведзена ешчэ ниводнаго фольварку, хаця гаспадары з гэтых двух тольки паветоў прасили пабиць на фольварки близка 2 тыс. дзес. —У Гродзенскай губ. не настроена ешчэ ани воднаго хутару ни ў яким павеци.

Праўда, зроблены пляны хутароў для паловы прыгавороў ў Виленскай губ. и на шостую часьцину прыгавороў у Гродзеншчыне Але гэта мала: надходзиць весна, и рабиць фольварки трэба не на паперы, а ўжо на зямли.

Литвины даўно пачали завадзиць у сябе фольварковые гаспадарки; ешчэ да аткрыцьця земельных камисий ў Ковенскай губ. заведзены были хутары на 201 тыс. 109 дзесяцинах, а камисии пабили на фольварки крыху больш за 11 тыс. дзес. Зроблены пляны хутароў тольки на 3 тыс. дзес., а прашэньнёў подана больш як на 23 тыс. дзес.

Кали и верыць, што камисьи патрафили-бы кались здаволиць патрэбу зямли у мужыкоў, то пры такой маруднай рабоци их, як дагэтуль, доўга прыдзецца мужыком нашым чакаць!



## „Коопэрацыи“ и зьезд у Маскве.

Цэны ўсих тавароў цяпер так падняліся, што працоўнаму народу за ими ўжо и дыхаць нельга. Першая и найважнейшая прычына гэтай непамернай даражыни, як мы нядаўна писали, ёсць саюзы фабрыкантоў—„сындыкаты“, каторые дзеля карысьци сваей павеличыли страшэньне цэну тавароў сваей ўласнай ахвотай. — Кожнаму чалавеку асобне ваевацъ з даражынёй вельми цяжка, дый нима як. Вось и дадумалися людзи што проци саюзоў прадаўцоў трэба паставиць саюзы купляючых,—так-званые „коопэрацыи“ (суполки), бо тольки ў грамадзе можэ быць тая сила, без каторай нельга палепшыць ўсяго жыцьця працоўнаго народу.

Кожны ведае, што дробные крамники купляюць тавар на продаж не проста з фабрык, а ад вяликих гандляроў, з складоў, каторые бяруць той тавар з фабрык и заводоў. Часта бывае, што тавар, покуль дойдзе да нас, праходзиць праз тры—чатыры руки.—Але-ж и крамник, и склад гандлюють на тое, каб зарабиць; вось яны и накидаюць на без таго вяликую фабрычную цэну тавара па некольки грошэй, и гэтак цэны ўсе ешчэ больш падымаюцца. Разумеючы гэта, людзи пачали рабиць суполки, товарыства, „коопэрацыи“ и стали ўсе разам гуртам выписваць з фабрык патрэбные рэчы; гэтак усё им абходзицца танней.

У апошние годы, з узростам даражыни, па ўсей Расеи завялося шмат таких „коопэрацый“. Каб згаварыцца, як лепей нарыхтаваць „коопэрацыйные“ справы, ў Маскве 17-го апрыля зъехалися прэдставицели „коопэрацыйных“ товарыств з розных мейсц. Сабралося близка 800 чалавек ад 405 суполок; ў тым з Беларуси 16 чалавек.

Цяперашние законы аб суполках и товарыствах ня надта карыстны для коопэрацыйнаго руху. И зьезд, разабраўшы их, можэ паказаць ясна ўсим, якие патрэбны новые законы, каб не затрымаць ўзросту коопэрацыйных суполок. — Ешчэ ёсць и другая справа, каторую можэ добра разабраць маскоўски зьезд. Ведама, што ў розных краёх, з каторых складаецца расейскае царство, варунки жыцьця бываюць розные. Напрыклад, у нас—ў Беларуси, ў Литве—ўся гаспадарка краёвая и жыцьцё вельми розняцца ад гаспадарки и жыцьця рускиx губэрний, Польшчы, Каўказу и др. Вось жэ и фабрыканты гэтаго краю робяць свае „сындыкаты“ асобне ад усей Расеи. Так сама у нашых коопэрацый ёсць свае асобные, мейсцовые справы и патрэбы, як ў иншых часьцях гасударства. — Зьезд и павинен паказаць, як трэба нарыхтаваць краёвые саюзы коопэрацыйных товарыств, ды як тым краёвым саюзом злучацца меж сабой.

Праз кольки дзён зьезд будзе працаваць над усеми гэткими справами и абдумываць, як найлепей организаваць „коопэрацыи“. Аб яго работах напишэм, як ён скончыцца.

---

## З Беларуси и Литвы.

(Ад нашых карэспандэнтоў).

**М. Малеч** Гродзенск. губ. Пружанскаго пав. Можэм пахвалицца сваей воласцью. Годы 3 таму назад поп ўзяў прысягу ад сваей парафии, каб ня

Прадседацель савета министроў *Столыпин* адказываў на гэты запрос „правых“, што правительства нездаволена Финляндией, бо там многа рэволюцыйнаго духу. Напрыклад, ёсць саюз „Войма“ (Сила). Гэты саюз робиць дружыны, дае им аружжэ. А финлядски сэнат пастанавиў, што закрываць гэты саюз нима за што, бо ён мае мэту не скидаць парадки и законы, якие цяпер ёсць ў Финлядии, а хочэ утрымаць их и абараниць, каб их не адабрали. Расейскае правительства ня хочэ, каб быў гэты саюз. Апроч таго руские рэволюционеры ездзяць у Финляндию, и там им нихто не прашкаджае рабиць сабраньня. Финлядия так сама часам выдае для сябе законы, каторые правительству не угодны.



## Работы зьезду коопэрацыйных таварыств у Маскве.



Ў № 9 «Нашае Нивы» мы ўжо писали, што ў Маскве 17 апрыля сабралися на зьезд выбарные ад коопэрацыйных таварыств з усяе Расеи. Таких выбарных было близка 800, а кали паличым ешчэ гасьцей, што были на зьездзи, дык ўсяго набярэцца больш за паўтары тысячы людзей.

На першым агульным сабранни ўсих зьехаўшыхся прэдставицелёў суполок прачытаў вельми цикавы „даклад“ аб коопэрациях за границаю В. Тотомиянц.

За границаю,—казаў ён,—коопэрацыйные таварыства перш за ўсих пачали закладаць работники, каб лягчей было змагацца з фабрыкантами. За фабрычными рабочыми пайшли и мужыки. Таварыства гэтакие ставили сабе уселякие мэты; ўсё-ж таки ўсюды найбольш заводзяцца такие суполки, што адкрываюць для супольникоў свае крамы, ў каторых тые ўсё дастаюць танней. Да „коопэраций“ належыць за границаю вельми многа народу. Напрыклад, у Англии ёсць ужо больш як поўтрец累 мильёна (2.500,000) людзей — членоў коопэрацыйных таварыств. Суполок там цяпер больш за поўтары тысячы, ды ўсё прыбываюць новые. Грошми абароту ў них было каля 630 мильёноў руб., а даходу за апошни год мели яны 10 мильёноў руб. И гэты даход коопэрацыйные таварыства аддаюць на школы, библиотеки, чытальни, на выданьне газэт и на иншые падобные рэчы, ад каторых будзе карысць усяму народу. У Англии ёсць коопэрацыйны банк, каторы вяликая громада людзей аткрыла супольне, злажыўшы на гэта кожны па крысе грошей; гэты банк дае пазычки рабочым за малые працэнты—па $3^{1}/_{2}$ (поўчварта) рубля з сотни, а па иншых банках бяруць ня менш, як па 7 працэнтоў, значиць, у два разы больш. Заведзены ешчэ супольные фабрыки; ў их працуе близка 40 тысяч рабочых, дый праца их лягчэйша, як гдзе: яны працуюць па 8 гадзин ў дзень.—Па иншых краёх коопэрации растуць з году ў год. У Швэйцарыи пятая часьцина жыцелёў належыць да коопэрацыйных суполок, ў Немеччыне—палова селян-мужыкоў. Ў Бэльгии товарыства гэтые добра шырацца; их заводзяць там найбольш социалисты. Ў Италии мужыки па вёсках маюць свае супольные банки, кассы, товарыства для аренды грамадою зямли у паноў; члены гэтых товарыств ня тольки супольне арендуюць зямлю, але ўсе разам, хаўрусом працуюць на ёй, и меж ими ёсць шмат мужыкоў беззямельных; а ешчэ италийские рабочые, што працуюць у шкляных гутах, завяли нядаўно чатыры свае супольные гуты и робяць конкурэнцию сваим даўнейшым гаспадаром—багачом-фабрыкантом.

Пасьля мовы Тотомиянца гаварыў В. Поссэ аб коопэрациях ў Расеи. Разсказаў ён пра той завод на Урале (каля Екатэрынбурга), што ад казны перайшоў ў руки самых работникоў; хаця казна хацела яго саўсим закрыць, бо ня мела даходу, але-ж цяпер, як гаспадараць рабочые, ён трымаецца вельми добра. Казаў Поссэ, што для нашых селян коопэрации надта карыстны: нима ведама, ци дадуць кали землицы, дык не чакаючы варта ўсим разам трымацца и выраблять зямлю супольне—будзе лягчэй жыць.

На першым заседаньни зьезд падзелиў сабраўшыхся на часьци — „сэкции“ и кожнай назначыў сваю работу. Працавали кольки дзён, але-ж ўсяго, што пачали ня скончыли: палиция закрыла зьезд.



## ПЕСЬНЯР.

Кажуць людзи: „Што ты смутны?
„Што сьпеваеш ўсё пра горэ?
„Твае песьни—стогн пакутны,
„Сьлёзы ветра на прасторы!
„Ты злажы нам песьню воли,
„Песьняй шчасьця заливайся!
„Цихим сьпевам нивы ў поли
„Ў струнах сэрца адкликайся,
„Каб вясна на нас дыхала,
„Грэла душу цеплатою, —
„Каб нам сэрцэ сагрэвала
„Цихим шчасьцем, дабратою“. . . .
— Ой, вы, людзи! Нима-ж воли:
Скуты мысьли ланцугами,
Пусты нивы нашы ў поли,
Злосны вихар дзьме над нами!
Ци-ж я сэрцэм не балею?
Ци-ж мне смутак лёгка даўся?! . . .
Я сьпеваю, як умею, —
Я пра радасць пець ня здаўся! . . .

Якуб Колас.



лы трэбуюць з воласьци грошы: воласць не дае, дык так и астаецца бяз школы. Тое самае робицца и ў Гродзенскай губ. Вось с тых 600 тысяч руб., што цяпер Дума адпусьцила на Виленски Учэбны Округ (Нар. Обр. въ Вил. Учеб. Округѣ № 3, 1908), на Виленск., Ковенск. и Гродзенск. губэрни выпадзе найменш, бо тут нима ниякаго земства.

На помач сельскай гаспадарцы ў Виленскай губ. не даецца ни аднэй капейки. Тым часам ў 33 земствах ў Расеи шмат для гэтаго робицца. Напрыклад, самае багатае и лепшае земства ў Маскоўскай губэрни — выдала (1889-93 г.) на паляпшэньне гаспадарки, хатняго рэмесла, на учоных аграномоў (што абучаюць мужыкоў, як лепш гаспадарыць), на лепшую скацину, паказные паля, на книги аб гаспадарцы, на сельские банки — ўсяго 358 тысяч руб.; Смаленскае земства (у Смаленск. губ. жыве шмат беларусоў) выдала 49 тыс. р., Чэрнигоўскае — 597 тыс. руб.

Земскае самаупраўленьне ци, як кажуць, „земства“ ў 33 губэрнях Расеи уведзена ў 1865 гаду; спачатку яно мела больш правоў але потым шмат правоў адабрали, и найменш галасоў маюць там мужыки. Але ўсё-ж таки, кали прыраўнаваць гэтые земства да земских спраў ў Беларуси, то гэта як неба и земля, бо ў нас грашми распараджаюцца не выбарные людзи, а чыноўники. И наш край так змарнеў, бо ня мае земскаго самоупраўленьня.

„Окраинный союз“ (правы), у Вильне и Минску, каторы выбраў ў Думу Замыслоўскаго и Шмида, заяўляе, што тут ня можна ўвадзиць земства, бо у беларуским краю маюць силу польские памешчыки, и меж ими тольки ёсць людзи з навукай, так што земства пападзе ў их руки; вось гэты „саюз“ хочэ, каб саўсим тут не было земства, а кали даваць яе, дык даць такое, што им киравали бы тольки руские людзи,—значыць, чыноўники, бо руских памешчыкоў у нас мала, а изноў вучоных беларусоў мала. Скажэм мы „саюзником“ на гэта, што беларуски мужык на усих гэтых сварках кепска выйдзе. Як у адной байцы: дрозд сеў на бабу, а дзед хацеў забиць дрозда, ды так ўрэзаў цэпам па дразду, што забиў не дразда, а бабу. Беларуским мужыком будзе лепш ўсяго, каб ў земским самоупраўленьни, кали яно ўвядзецца, мужыки мели найбольш галасоў и силы, бо мужыкоў ў нас больш за ўсих. Тагды яны патрапяць выбраць ў земства и з руских, и з палякоў, и з сваих беларусоў добрых людзей, каторые шчыра будуць працаваць, каб падняць культуру и багацтва народу и завясьци добрые парадки. Таких людзей можна знайсьци у нас, нехай тольки „Окраинные саюзы“ и др. не сами выбираюць, хто лепшые апекуны мужыком —руские, ци паляки, а дадуць мужыком волю самым выбраць, хто им падабаецца.

Другим разам апишэм, якое устройства земскаго самоупраўленьня для нас найлепшае.

**А. Ў**

# ДОЛЯ БАТРАЧКИ.

Маци ў службу выпраўляе
Родную дзяцину
И украдкам выцирае
Горкую сьлязину.
— „Будзь паслушна ты, дачушка“, —
Навучае матка: —
„Дагаджай чужым ты, служка,
Ды цярпи, дзицятка!
Не адзин раз твае вочки
Заплывуць сьлязою;
Твая доля цямней ночки, —
Цяжка быць слугою!
Не уважыць чужаница
Ручэк тваих белых;
Поту выльецца крыница
З шчочэк загарэлых.

Леткам ўстанеш раней зорки,
Перша пойдзеш ў поле....
Ох, дачушка, хлеб твой горки,
Горка твая доля!“ —
Маци дочку разважае,
Сябе цешыць стара;
Жаль ей к сэрцу падступае,
Як бы тая хмара. —
Вось дзяўчына ўжо гатова,
Пакидае хатку.
— „Ну, матулька, будзь здарова!“
И цалуе матку.
Вышла маци ў след за ёю,
Стала пры парогу
И, падпёршы твар рукою,
Глядзиць на дарогу.

Доўга матка ўсё глядзела,
Доўга паглядала, —
Поки Ганны хустка бела
З вачэй не прапала....

**Якуб Колас.**

вучыцелёў на зиму. Школки такие добра вучаць и па руску, и па польску, и тлумачыць им вучыцель усё ў роднай беларускай мове. Крыўда тольки дзецям ў тым, што такие школки называюць „тайными“ и закрываюць. У 1908 гаду начальства закрыла 4 школы такие ў Ганчарскай вол. ў вёсках Фальковичах, Минайтах, Песках и Заборцах, ды ешчэ 2 школки ў Белицкай вол. ў в. Нецеч и Чаплицы. **И. Калодка.**

В. **Фальковичы** Вилен. г. Лидзк. пав. Азими на и ярына слабые. Варыва трохи ад халадоў, што были ў чэрвеню (юни), аслабла. Азимина, што пасеяна па лубине, надта добра урадзила—лепш як па гнаю, за тое и цэна на лубин паднялася, каля нас плацяць па 60 кап. за пуд. **К.**

Г. **Слоним** Гродзенск. губ. Зимою у нас завяли старанньем зубнога доктара Гольдбэрга суполку, каб памагаць бедным хлопцам, што вучацца ў школах. Записалася ў гэтае товарыство 200 членоў; кожны плациць па 1 руб. ў год. Ужо выдали 400 руб. для бедных хлапцоў на опратку, книжки и т. д. Добра было-бы, каб у нас па мястэчках завяли такие суполки. Некаторые бедные мужыки ня могуць пасылаць дзяцей у школу тольки таму, што нима як пракармиць их. **Берэбендзя.**

Ў **Кастравицкай валасьци** Слонимскаго пав. Гродзен. губ. личыцца 8.269 душ. Есць тут 5 сельских народных вучылишч и 2 цэркоўные школы. Сельские школы поўна напханы вучэниками, але шмат дзяцей ўсё-ж таки ня маюць гдзе вучыцца. Тры вучыцели гэтых школ: Яроцки, Романович, Яговдзик и писар Грыц стараюцца, каб адкрыць ешчэ ў 6 вёсках, каторым далёка да вучылишча. Мужыки здаецца павинны были бы ничога не жалець, каб адкрыць такую карыстную рэч як школа. Але выходзиць не так, напрыклад, в. **Павловичы** ничога не захацела прыгаварыць на школу. В. **Василевичы** не захацела даць дзесяцины зямли пад вучылишчэ, дзеля таго астаецца без вучылишча для дзяцей. Хаця у нас ў Беларуси народны вучыцель и зациснены, як нигдзе, усёж вучыцели хочуць зрабиць библиотэку и чытальню для народа. Пэмажы Божэ! **Берэбендзя.**

З **Уцяны**, Вилкомирск. п., Ковенск. губ., пишуць ў литоўскую гвзэту „Viltis“, што тутэйшы земски начальник выдаваў старавером „пераселенчэские свидзецельства“ на выезд ў Сыбир. Але-ж ў дарози их затрымали и не пусьцили ехаць туды, а земскаго выдалили са службы.

**Выстаука у м. Ушачы.** 28 и 29 серпня (аўгуста) 1908 г. ў мястэчку *Ушачы*, Лепэльскаго павету, Витэбскай губ., Лепэльскае Товарыство Сельских Гаспадароў аткрывае *выстаўку сельскай гаспадарки, фабрычную и хатнюю рэмесла (кустарную).* Товарыство просиць прылучыцца да выстаўки землеўладзельцоў, фабрыкантоў, сельских гаспадароў, мужыкоў, арэндароў, рэмесникоў, „кустароў“ и др. з усих гарадоў, мястэчак и вёсак ўсяе Витэбскай губэрни, а так сама з паветоў Барысоўскаго, Дзисненскаго и Сенненскаго.

З гэтай выстаўки для ўсих жыцелёў нашаго краю будзе вяликая карысць: кожны ўбачыць, якие ёсць лепшые способы гаспадарки, рэмесла и т. д., дый можэ завясьци што добрае и у сябе. Дык, хто тольки мае што-колечы для выстаўки, нехай шле туды ўсё. За найлепшые рэчы будуць выдавацца награды.

За ўход на выстаўку плациць ня трэба. Вырабы и дабро мужыцкае, кали яно будзе стаяць пад голым небам (не ў „павильёнах“), прымаюцца на выстаўку без платы за мейсцо.

Да м. Ушач ад Полацку 40 вёрст, ад Лепля —35 в. и ад ст. Загатье Николаеўской (Бологое-Седлецкой) ж. д.—25 в.

Адрэс *Распорадзицельнаго Камитэту Выстауки* таки: почт. ст. **Воронеч,** Витэбскай губ., маёнтак *Воронеч.*



# * * Мужык. * *

Я—мужычы сынок.
Ни двара, ни кала!
Поле—жоўты пясок,
Хата ў землю вайшла.
Не жыву, а гнию,
Прападаю, як мыш...
Глянь на долю маю,
Глянь на цяжки мой крыж!
Я балоты сушу,
Надрываю жывот;
За безцэнак кашу,
Рыю землю, як крот.
Усе вуглы и куты
Сваим целам я зьмёў,
Ссек я лес и кусты
И дароги правёў;
Ды ня еждджу па их, —
Я хаджу пехатой
Ў рваных ботах, старых,
Часьцей босай нагой.
Збудаваў я палац,
Ўсяких фабрык, мастоў;
Сам жэ голы, як бац —
Пары дзьве лахманоў.
Пад ваконьнем не раз
Я з мяшэчкам хадзиў,
Миласьцины у вас
Хрыстом Богам прасиў.
Вы ж у торбу маю
Клали чэрствы кусок;
Замест рыбы—зьмяю
З сьмехам клали ў мяшок.
Мяне мочыць раса,
Мяне сонцэ пячэ,
И у песьнях маих
Сьлеза циха цячэ.
Я па сьвеци хадзиў,
Ўсюды косьци занёс,
Я на землю пралиў
Многа зьлёз, многа сьлёз!..
То ня дуб у бары
Заскрыпеў, застагнаў —
Гэта я без пары
Богу душу аддаў.
Нудна звоняць званы,
То мацней, то замруць;
Адзин дзяк ля труны, —
Гэта гроб мой нясуць.
На магилцы маей
Крыж трухлявы стаиць,
А над прахам касьцей
Вольны вецер шумиць...
Я—мужычы сынок,
Я ня маю дарог.
Мая школка—шынок,
Маё жыцьце—астрог!

**Якуб Колас.**

Дзіўная рэч, да чаго людзи не дабрэшуцца! Цяпер 8½ мільёноў беларусоў гавораць усе ў сваей роднай мове, а кали навучацца ешчэ и чытаць па свойму, то ўжо (як даводзиць „Свѣтъ") перастануць быць беларусами и зробяцца палякамі!—Папаў беларус, як у нерад: ни ў зад ни ў перад! Бо-ж „истинна-польские“ людзи ваюють з беларусами, кажучы, што беларушчына шкодзиць ихней „польскосьци“, — а „истинно-русские“ крычаць без конца: беларусоў паляки падкупили, каб яны ад сваей роднай беларускай мовы не адрэкалися!... И гэтак тые „истинные“ адны прад другими стараюцца ўзяць беларуса пад сваю каманду, каб пасьля нацкаваць на другога.

Нам здаецца, што палитыка цкаваньня аднэй нации на другую да дабра наш край не давядзе. Кали ўсе нации будуць меж сабой грызцися у нас, то мужыку ад гэтаго мала будзе карысьци: для яго нихто нічога рабиць ня буцзе. — Каб ня скончылося так, як у аднэй байцэ. Галодны чалавек, идучы, убачыў на дрэве шынка висиць; ён за шынку. Але пильнаваў шынку сабака, ды гаркнуў на яго: „не чапай! гэта мая шынка! идзи вон!“ Тут чалавек дадумаўся, што зрабиць: пабег да дому, ўзяў сваю сабаку и напусьциў на тую. Сабаки кинулися адна на адну, грызуцца меж сабою, а чалавек схапиў шынку и уцёк.

**А. Ў.**

---

## Школьная справа у Турции.

Дабиўшыся конституции и свабод грамадзких для свайго краю, турэцкие рэволюционэры— „младотурки“ ўжо приступили к працы, каб для новаго паламэнту прыгатаваць раней праекты законоў аб новых свабодных парадках. Разам з другими справами, яны занялися и надта важнай для ўсих наций, што жывуць пад туркамі, справай аб народнай прасьвеци. Камитэт младотуркоў ў Македонии апрацоўвае закон аб школах: па гэтаму закону мае быць заведзена *агульнае прымусовае навучаньне* ў народных школах с тым, каб усих наук вучыли бы ў той мове, якой гавораць у сябе дома вучни, — значыць, каб школы были *национальные.* За тое ў сярэдних школах (гимназиях) младотурки хочуць завясьци вучэньне ўжо больш па турэцку. И вось хрысьцянские народы ў Македонии не здаволены гэтым: болгары, сэрбы и др. дамагаюцца, каб и ў гимназиях ўся навука давалась бы вучнём ў роднай их мове.

За тое, каб усе школы без розницы были *национальные,* стаяць моцна ўсе тые невяличкие народы, што жывуць ў Македонии. И ня дзива: национальная школа—гэта найлепшы спосаб шырыць ў народзе праўдзивы сьвет навуки, той сьвет, без катораго ниводная нация ня можэ нарыхтаваць жыцьцё свае *сама,* без чужой апеки, ды так, як ёй выгадней.

Вельми цикавые рэчы аб национальнай школе пишэ Г. Роков (гл. *«Вѣстникъ Воспитанія» № 4, Апрѣль,1908. «О національно-патріотическомъ воспитаніи»*). Як ён даводзиць, тольки школа *национальная* мае можнасць даць народу найбольш карысьци: яна знае и разумее душу яго, яго думки, патрэбы, жаданьня; яна вучыць ў мове народнай, знаёмыми и панятными словами тлумачыць новые, невядомые словы, рэчы и думки; яна найбарджэй здалее пакираваць мысьли и сэрца падрастаючых грамадзян на тую самую дарогу, па каторай идзе ўвесь народ и каторая мае мэту здаволиць справедливые дамаганьня, культурные патрэбы яго.

Дык вось чаму и болгары, сэрбы, албанцы и др. нации ў Турэччыне ў той момэнт, кали ў цэлым краю настраиваецца новае жыцьце, стараюцца ўмацаваць школы и навуку ў роднай мове сваей на цьвёрдым фундамэнци.

## Мужычае жыцьце.

Божэ, Божэ, твая воля!
(Хоць и можэ гэта грэх):
Што за жыцьце, што за доля, —
Проста плач бярэ и сьмех!
Ў хаце чорна, непрыбрана,
Парасята пад палком,
Павуцинаю заткана
Столь и кут над абразом.
Дзеци ўстануць пасьля ночы —
Крык, хоць вушы затыкай;
Дым с каминку лезе ў вочы,
Дзед сярдуе—ае-яй!
А як часам гдзе зьбярэцца
Ў хаце с пару шчэ жанок, —
Сварка тая не зьвядзецца,
З дзень грызуцца за гаршчок!
Ў спор ўмешаюцца мушчыны,
Ну, и пойдзе ла—та—та!
Паўплятаюцца ў чупрыны,
Рэдка стане барада....
Так ўвесь век пэрэтаўчэшся,
И нима таго дабра:
Поки жыць ты прыбярэшся —
Умираць ужо пара.

**Якуб Колас.**

---

## Асвабадзэньне дэпутатоў І-ай Г. Думы.

Ў гэтым тыдни выйшли на свабоду близка ўсе дэпутаты Першае Думы, каторые ў Пецербургу и ў Маскве адбывали ў турме кару, присуджэную им за падписаньне „выборгскаго вазваньня“. Витали их усе, хто личыць карыстнай працу Першае Думы и перших народных прэдставицелёў; их выбаршчыки пасылали им листы с паздраўленьнем и шмат кветак.

У Маскве тэрмин адседки скончыўся 11 серпня. Ў той жэ дзень асвабадзиўшыеся дэпутаты сабралися ў кватэры кн. Долгорукова, гдзе ўжо чакали их прэдставицели ад маскоўских выбаршчыкоў и ад партии „народнай свабоды“. Кн. Долгоруков привитаў их гэткай мовай:

„Тое горэ, што вы праз тры месяцы цярпели ў турме,—з вами разам цярпели ня тольки жыцели Масквы, а и грамадзяне ўсяе Расеи. Вы ехали ў Думу, як найлепшые людзи зямли русскай. И мы ани на момэнт не пэрэставали верыць ў гэта и тады, як вы заседали у Першай Думе, и як вас судзили, и як трымали ў турме. Сягодня вашае нешчасьце скончылося, и мы, каб адплациць вам

выск, дзе ўсих жартоўникоў и арэштавали. Васьмёх палиция пусьцила да суда, а астаўшыхся павязьли ў Минск, адтуль у Слуцк, а цяпер, як кажуць, прывязуць их и да Ляхович. Вот табе и жарты! Ешчэ то добра, што з Волкавыску да Ляхович дарма прыехали.

У той панядзелак 2 пияные мальцы — Василеўшчык и Бэцька — и мужчына Гловадчык, сустрэциўшы балаголу, абярнули яе, ды хацели гэтак настрашыць падарожных и забраць им рэчы. Але жыды пабили их, а палиция ешчэ таго-жэ дня пасадзила ў халодную гэтых ахвотникоў да чужога дабра. **Падарожны.**

У вёсцэ **Остромэчэве** Брэсцк. пав. Грод. губ. памешчык Пузына дараваў пад школу 1/2 дзесяцины зямли. Тым часам, ня гледзячы на тое, што будынак ўжо скончэны, школа не адкрывалась, бо ўсё роўна ешчэ нехват было пры ёй зямли. На школьным пляцу стаяла раней старая карчма, каторую жыд купиў з варункам перанесьци на иншае мейсцо, але дагэтуль не датрымаў кантракту; дый пэўне и дагэтуль карчма стаяла бы ешчэ некольки гадоў да суда, каб нехта не падпалиў яе 10 серпня (аўгуста).

Суседзи, пабачыли пажар, пабегли будзиць жыда. Йон жэ, думаючы, што лезуць да яго „экспропрыяторы“, не впусьциў адразу суседоў; а пазьней было позна ратаваць жывёлу, бо конь и карова ўжо жыўцам спалилися.

Пасьля пажару уступиў Микита Петручык сваю землю пад новую карчму, ў каторай, як и даўней, пьюць людзи атруту. Гэтая карчма стаиць цяпер каля школы, як раз насупроциў цэрквы.

Наш сьвяшчэник завеў товарыство для вайны з гарэлкай, але дагэтуль туды записаўся адзин чалавек. А шкада!

У нас пьюць ўси: и старые, и малые, и хлопцы, и дзеўчата; а з гэтаго вышло вось што: некольки мальцоў падрабили „квитки“, каторые выдае за работу памешчык, и пашли да яго па грошы. Пан гэта ўбачыў и цяпер ня хочэ даравацъ им. Ешчэ раз пабачым, як гэта гарэлка вядзець людзей да злога!

У нас ёсць библиотэка-чытальня, але мала да яе людзей ходзиць, бо яны видаць лепей любяць пиць гарэлку. Грошы не даюць мужыки на библиотэку, а каб хоць цавали па некольки капеек с кожнаго прапитаго рубля, дык была бы тады и лепшая библиотэка, и больш газэт можна было бы выписаць. А як казаць им аб гэтым, дык заўсягды пачуеш: „на што мне яна! Ниякой карысьци ўсё роўна ня будзе, дый самагонка лепшая за книжки!...“

**Дэпутат Гаурылюк** (з вёски Шчытники Логшыцкай валасьци) ў летку ни с ким не хацеў гаварыць пра Думу и пра сваю работу ў ёй. Кали с кем сустрэнецца, дык усё кажэ: „прыйдзи да мяне ў хату, а тамака ўсё раскажу“,—але ў хаце так сама маўчыць, як и иншые „правые“ дэпутаты, да каторых ён у Думе належыць. Тым часам ён заняты тым, што ставиць сабе новые будынки, ды нешта не працуе над пазнаньнем свaей старонки, патрэб и жаданьнёў сваих выбаршчыкоў. **Nemo.**

С. **Остромэчэво** и в. **Плянта** Брэсц. п. Грод. губ. Други год цягнецца ў валасьци нашай справа аб судзях. Мужыки выбрали таких судзёў, што згадзилися дарма судзиць. Земски з ими пагутарыў и пасьля гэтаго судзи сказали каб им плацили пэнсию. Мужыки, ня ведаючы, што па закону судзям трэба плациць, не дали свайго сагласу. Але зьезд нядаўна прыслаў бумагу, каб валасць плацила пэнсию. З гэтаго видаць, што памеж мужыкоў можна знайсьци таких людзей, каторые згаджаюцца дарма працаваць для грамады.

в. **Блювеничах** Брэсцк. пав. ёсць князь, каторы мае, як кажуць людзи, таки звычай: кали хто яму ня здыме шапки, таго ён па бацькоўску вучыць. Нядаўна прыехали адзин мужык з в. **Морозович**, а други, каравай з м. **Лышчыцы**. Абодвых князь па бацькоўску павучыў... **Р.**

Гор. **Кобрын** Гродзен. г. Тут памешчыки адкрыли хаўрусную краму розных рэчэй гаспадарских. Усё тут прадаецца добрае и танна. Мужыки пачали купляць у краме стольки томас-шлаку (муки, што сыпяць у зямлю заместа гнаю), што ўжо крама чуць пасьпевае выписваць яго вагонами.— Мужыки нашы ўжо 7-8 гадоў, як пачали апроч гною ужываць да гнаеньня поля „зялёны“ гной — лубин, а цяпер хочуць ешчэ лепш зрабиць и сыпяць на рали парашки, штучны гной. **С. С.**

У в. **Можэйки** Кобрын. п. жыве стары дзед **Сьцепан Кабец**; ён мае 111 гадоў, але ешчэ моцны чалавек; яго нават выбрали апекуном (папечителям) Сьцепаноўскай цэрквы. Дзядуля любиць вельми расказваць, як ён гаварыў с царом Александрам I. **Н.**

**Вильня.** Халера цяпер усюды стала сцихаць, як настаў холад. У Вильню яна ўсё-ж таки даехала: заразу прывёз з сабой неяки чалавек, дый захварэў ён сам и яго дачка. Больш никога халера не зачапила. На Беларуси папала яна ешчэ ў Мазыршчыну, гдзе захварэла 30 чал.; з их близка палова памёрла.

* * *

Мы маўчали, як нямые,
Мы цярпели без канца;
Грызли думки нас благие,
Сьлёзы падали з лица.

Мы хадзили, як у ночы,
Серад муки, серад зла;
Туманы сьляпили вочы,
Цень на нас ад хмар легла.

З нас немала жартавали,
Той нас крыўдзиў, той нас сек.
Абраз Божы наш таптали,
В нас заплёван чалавек.

Так нехай жэ сьвет над нами,
Сьвет навуки заблишчыць,
Нехай родными славами
Наш народ загаварыць!..

**Якуб Колас.**

*Микалаеушчына.*

# У ВАСТРОЗЕ.

—)-(—

Нудна Сьцёпцы за рашоткай,
Нудна, эх, старому!
Плачуць думки, рвуцца думки
Сьцёпкавы да дому.
Дома жонка, дома дзетки...
Бог сьвяты их знае,
Як жывецца небаракам
Там у родным краю!
Ходзиць Сьцёпка з вугла ў вугал,
Гляне у ваконцэ:
За рашоткай видно небо,
Хмарак валаконца.
Эй, хмарынки, плывицё вы
У старонку тую,
Гдзе пакинуў я сямейку,
Хатачку старую!
Ох паплыў бы я, здаецца,
Хмарки, разам з вами,
Каб на вёску сваю глянуць
Нудными вачами.
Там, далёка, за дамами
Разляглося поле,
Лес—гаёчэк, дол, курганы...
Эх, прастор там, воля!
А у поли дым синее —
Бульбу люд капае;
Сьцёпка ж бедны так марнее,
Долю праклинае...
Ляжэ Сьцёпка спаць на нары
И праз цэлу ночку
Ўсё аб роднай вёсцэ сьницца,
Аб родным куточку.
Нудна Сьцёпцы за рашоткай,
Нудна, эх, старому!
Плачуць думки, рвуцца думки
Сьцёпкавы да дому.

Якуб Колас.

# КАЗКА
## аб японским каменшчыку.

Написаў МУЛЬТАТУЛИ.

Шмат гадоў таму назад жыў чалавек, каторы займаўся дабываньнем из скалы каменьнёў. Некарыстная была гэта яго работа: працаваў шмат, заплату атрымоўваў саўсим малую, дык и ня мог цешыцца з гэтакай незавиднай доли.

Аднаго адвячорка ўздыхнуў глыбока, бо такиж цяжкая была яго праца, и адазваўся:

— О, каб жэ я быў багаты и мог спачываць, ничога ня робячы, ў халадку на зялёнай мураве, ды выпиваць смашное винаграднае вино, — то ж бы жыцьцё было!..

И ў гэту минуту зышоў анёл з неба и сказаў:

— Будзе так, як хочэш!

И быў багаты, спачываў у пярынах, еў смашна и пиў дарагое винаграднае вино.

И здарылося вось што: ўбачыў, як праезджаў кароль таей зямли. Ездаки папераджали яго карэту и ездаки паступали за карэтай каралеўскай; над галавой жэ караля нясьли залацисты бальдахим.

И кали ўгледзиў гэта наш багатыр, маркотна яму стала, што над галавой яго нима залацистаго бальдахиму, дый стаў изноў нарэкаць на свою долю:

— Хацеў бы каралём быць! — уздыхнуўшы цяжка так ён адазваўся.

И зышоў анёл з неба и сказаў:

— Будзе так, як хочэш!

И быў каралём. И шмат ездакоў папераджали карэту яго, и ехали яны так сама за карэтай, и над галавой яго нясьли залацисты бальдахим.

А сонцэ палило агнистыми праменьми и пражыло зямлю, аж засыхали травы.

И скаржыўся кароль, што сонцэ твар яму палиць, мае моц над им вяликую; стаў ён изноў нарэкаць на сваю долю и вось, уздыхнуўшы глыбока, сказаў:

— Хацеў бы сонцэм быць!

И зышоў анёл з неба и кажэ:

— Будзе так, як хочэш!

И быў сонцэм. И пасылаў прамени ў высь и ў низ, на права и на лева и ў сюды навокол.

И палиў травы и кветки, што расьли на зямли, и выхуханые твары князёў, што панавали на зямли.

И здарылося, што чорная вяликая хмара затрымалася миж им и зямлёй и загарадзила дарогу агнистаму сонцу.

Угнявило яго, што нехта пасьмеў исьци проци такой силы, ды стаў скаржыцца, што хмара моц над им мае вяликую. И нарэкаў на сваю долю.

И захацеў быць хмарай, што мацнейша за сонцэ.

Тады зышоў анёл з неба и сказаў:

— Будзе так, як хочэш!

И зрабиўся ён хмарай: затрымливаўся памиж сонцэм и зямлёй и не прапушчаў праменёў, аж зазелянелася трава.

И паслаў на зямлю дошч пралиўны, аж разлилися рэки, и паводки пазнасили дабытак.

Бязмерным заливам пусташыў ён паля.

И накинуўся на скалу, але скала не паддавалася; напусьциў на яе дошч густы и доўгатрывалы, але скала стаяла моцна на сваим мейсцу.

Тады задрыжаў страшэнным гневам, што скала не хацела паддацца, што моц яго вадзяная ничога не варта, и злосна стаў нарэкаць:

— Скала мацнейша за мяне! Хачу скалой быць!

И зышоў анёл з неба и сказаў:

— Будзе так, як хочэш!

И быў скалой вяликай, моцнай. И ци сонцэ палила, ци дошч лиўся, — стаяў ён горды, ненарушэны.

Аж вось прышоў чалавек з матыкай, вострым далатом и цяжким молатам. И чалавек гэты, дабываючы каменьня са скалы, калечыў яе.

Тады сказала скала:

— Што гэта? Чалавек той мае моц большую за мяне и з маей паставы выдзирае каменьня?!

И стаў нарэкаць на долю сваю:

— Я слабейшы за яго... Хацеў бы я быць гэтым чалавекам!

И зноў анёл зышоў з неба и сказаў:

— Будзе так, як хочэш!

И зрабиўся ён каменшчыкам. И працаваў пастараму вельми цяжка за малую плату, и... быў здаволены.